


ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BACKAUSCYNA" („VATERLAND"

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына:** на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка л[illegible]іцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за пад[illegible]ойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna", Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München

LE JOURNAL BIELORUSSIEN "LA PATRIE"

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND"

THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "THE FATHERLAND"

№ 33 (517) Нядзеля, 28 жнівеня 1960 ГОД ВЫДАНЬНЯ 14

# Прынцыпы савецкай палітыкі ў Афрыцы

12-га ліпеня ў Маскве на прэсканфэрэнцыі для савецкіх і замежных журналістых Хрушчоў, на пытаньне аднаго з карэспандэнтаў аб ягонай думцы што да беспарадкаў у Конга, заявіў, што ён лічыць віноўным у гэтых беспарадках бэльгійскі ўрад, які, паводля агоных словаў, імкнецца захаваць у Конга «калянізатарскія парадкі». Пры гэтым ён схарактарызаваў беспарадкі ў Конга, як вызвольнае змаганьне з мэтай «навядзеньня запраўдных парадкаў».

Апраўданьне Хрушчовам непадпарадкаваньня вайсковых адзінак свайму ураду і хваляваньняў, што пачаліся ў Конга ўжо пасьля абвешчаньня гэтай краінай незалежнасьці, гвалтаў і беспарадкаў, поўнасьцяй адказвае тым прынцыпам, якія прынятыя цяпер за аснову савецкае палітыкі ў Афрыцы й якія вызначаюць дачыненьне савецкага ўраду да ўсіх, асабліва паўсталых апошнімі часамі новых дзяржаўных утварэньняў. У савецкай літаратуры гэтыя прынцыпы найбольш поўна адлюстраваныя ў артыкуле ведамага савецкага спэцыяліста што да афрыканскіх краінаў — I. Пацехіна, апублікаванага у часапісе «Проблемы востоковедения» (№ 1, 1960, б. 12-29). Пацехін канстатуе, што «паводля ўзроўні свайго сацыяльна-эканамічнага рэчнасьці зь інтарэсамі замежных манаадна ад другое ў большай ступені, чымся краіны Азіі.» Дзеля гэтага «распад каляніяльнай сыстэмы» адбываецца ў Афрыцы нераўнамерна.

Асабліва вялікую розьніцу Пацехін бачыць між краінамі Магрыбу (Лібія, Туніс, Марока) і Эгіпту — г. зн. краінамі, што ляжаць на поўнач ад Сагары, і краінамі Чорнай Афрыкі, што ляжыць на поўдзень ад Сагары. Гэтыя розьніцы вызначаюць і розную палітыку савецкага ўраду ў дачыненьні да гэтых краінаў.

Пацехін прызнае, што ў краінах Магрыбу й Эгіпту інтарэсы нацыянальнай буржуазіі знаходзяцца ў войстрай супярэчнасьці зь інтарэсамі замежных манаполяў. Дзеля гэтага, як канстатуе Пацехін, нацыянальнай буржуазіі гэтых краін «належыць кіраўнічая роля ў нацыянальна-вызвольным руху». I дзеля гэтага савецкаму ўраду даводзіцца лічыцца з дайшоўшай у гэтых краінах да ўлады нацыянальнай буржуазіяй. Савецкі ўрад, як гэта паказвае ягоная палітыка ў дачыненьні да прэзыдэнта Насэра, падтрымлівае нацыянальныя інтарэсы ў Аб'еднанай Арабскай Рэспубліцы, навет ня гледзячы на тое, што ўрад Насэра перасьледуе ў сваёй краіне мясцовых камуністых. Прычынай такога дачыненьня савецкага ўраду да Насэра зьяўляецца нэўтралітэт ААР, якому савецкае камуністычнае кіраўніцтва прыдае вялікае значаньне й для захаваньня якога яно згодна навет ахвяраваць інтарэсы арабскіх камуністых.

У рэдакцыйным артыкуле часапісу «Проблемы Востоковедения» асабліва падчырквяецца «вялікая роля ў змаганьні за мір, якую грае палітыка пазытыўнага нэўтралітэту». Часапіс зьвяртае ўвагу савецкіх дасьледвальнікаў на неабходнасьць вывучэньня палітыкі пазытыўнага нэўтралітэту, бо гэтае вывучэньне «мае важнае навуковае й практычнае значаньне». Вось гэтае практычнае значаньне нэўтралітэту азіяцкіх і афрыканскіх краін для савецкай палітыкі ў Азіі й Афрыцы падштурхоўвае савецкі ўрад супрацоўнічаць з тымі краінамі Азіі й Афрыкі, дзе пры ўладзе находзяцца нацыянальныя некамуністычныя элементы, як, прыкладам, у ААР, у Іраку, у Тунісе і інш.

Такім чынам асноўным прынцыпам палітыкі савецкага ўраду ў дачыненьні да краінаў Магрыбу й Эгіпту зьяўляецца супрацоўніцтва й падтрымка дайшоўшай да ўлады нацыянальнай буржуазіі з мэтамі захаваньня занятай урадамі гэтых краін пазыцыі нэўтралітэту.

Савецкае камуністычнае кіраўніцтва не адмаўляецца пры гэтым ад асноўнае ленінска-сталінскае ўстаноўкі аб тым, што «між дасягненьнем сувэрэнітэту пад кіраўніцтвам нацыянальнай буржуазіі й заваяваньнем незалежнасьці пад кіраўніцтвам пралетарыяту йснуе прынцыповая розьніца, асабліва ў сэньсе канчатковых мэтаў вызвольнага руху». Інакш кажучы, роля буржуазіі ў краінах Афрыкі, што ляжаць на поўнач ад Сагары, прызнаецца прагрэсыўнай, але ня вычарпальнай. Пралетарыят, як і папярэдня, лічыцца «адзіным да канца пасьлядоўным змагаром за нацыянальнае й сацыяльнае вызваленьне». Дзеля гэтага й мірнае суіснаваньне камуністычных краін, а ў першую чаргу СССР з нацыянальнымі ўрадамі ААР, Іраку й інш. разглядаецца савецкім камуністычным кіраўніцтвам як зьява часовая, якая можа працягвацца толькі да таго часу, пакуль пралетарыят гэтых краін дастаткова не ўмацуецца, каб захапіць уладу ў свае рукі.

У каляніяльных і былых каляніяльных краінах Афрыкі, што ляжаць на поўдзень ад Сагары, палітычнае палажэньне й сацыяльныя ўмовы зусім іншыя, чымся ў краінах на поўнач ад Сагары. Гэтая розьніца вызначае й розныя прынцыпы, пакладзеныя савецкім камуністычным кіраўніцтвам у васнову свае палітыкі ў гэтых краінах. Вызначаючы асаблівасьці краінаў Афрыкі, што ляжаць на поўдзень ад Сагары, Пацехін у ўспомненым артыкуле лічыць што:

1) Клясавыя дачыненьні ў васяродзьдзі афрыканскага жыхарства яшчэ не атрымалі дастатковага разьвіцьця.

2) Нацыянальная буржуазія ў сутнасьці толькі фармуецца й эканамічна яшчэ слабая.

3) У вёсках пераважаюць патрыярхальна-фэадальныя дачыненьні.

Улічваючы гэта, артыкул робіць наступныя высновы аб тым, што слабая нацыянальная буржуазія ня можа забясьпечыць поўнае нацыянальнае вызваленьне, а, такім чынам, і лічыцца зь ёй ня трэба, тым больш, што яна ахвотна йдзе на ўгоду зь «імпэрыялістычнымі коламі» мэтраполіяў. На думку Пацехіна, у краінах, што ляжаць на поўдзень ад Сагары «ёсьць магчымасьць некапіталістычнага шляху разьвіцьця». Гэта значыць, што такія краіны, як Камэрун, Гвінэя, Конга й інш. змогуць перайсьці ў (савецкі) сацыялізм, мінаючы стадыю капіталізму, як гэта было ў Вонкавай Манголіі, у Казахстане й на тэрыторыі іншых народаў былое царскае Расеі, якія жылі ў умовах пераважаючых патрыярхальных дачыненьняў. Асноўнай умовай, пры якой можа зьдзейсьніцца такі пераход із стадыі фэадалізму ў сацыялізм, мінаючы стадыю капіталізму, ленінізм-сталінізм лічыць прыход пралетарыяту да ўлады. Якраз дзеля гэтага Пацехін у сваім артыкуле падчырквае, што ў нацыянальна-вызвольным руху ў афрыканскіх калёніях «найбольш пасьлядоўным змагаром за незалежнасьць зьяўляецца, зразумела, працоўная кляса, для якое заваёва поўнае незалежнасьці адкрывае пэрспэктыву далейшага змаганьня за сацыяльную перабудову роднае краіны.»

(Заканчэньне на 2-ой бач.)

# Хто і што выкрыўляе гістарычную праўду

У БССР выданьне навуковых працаў зь гісторыі Беларусі ўвесь час натыкаецца на неперамо жныя цяжкасьці і перашкоды. Ня гледзячы на тое, што, як паведаміла савецкая прэса, цяпер у ліку гісторыкаў БССР налічваецца 171 кандыдат і 8 дактароў навукаў, беларускія гісторыкі проста адмаўляюцца пісаць на гэтую тэму. Гэта й зразумела. Адны зь іх баяцца, што не пападуць у тон хісткай партыйнай лініі ў пытаньні гісторыі нерасейскіх народаў СССР, а іншым сумленьне навукоўцаў не дазваляе так выкрыўляць гісторыю свайго народу і сваёй краіны ў карысьць расейскага і расейска-бальшавіцкага імпэрыялізму, як гэтага дамагаецца партыя.

З мэтай падагнаць беларускіх гісторыкаў да распрацоўкі тэмаў зь гісторыі Беларусі, у Менску адбылася Рэспубліканская Нарада гісторыкаў. Як паведамляецца ў ліпеньнскім нумары «Камуніста Беларусі» ў артыкуле «За глыбокую распрацоўку пытаньняў гісторыі БССР і кампартыі Беларусі», нарада была скліканая на пастанову Цэнтральнага Камітэту кампартыі Беларусі. У ёй узялі ўдзел «работнікі Інстытуту гісторыі партыі пры ЦК КПБ і Інстытуту гісторыі Акадэміі навук БССР, навукова-дасьледчых установаў, музэяў, выкладчыкаў вышэйшых навучальных установаў, тэхнікумаў і іншыя —разам больш за 350 чалавек. Прысутнічала група вучоных з Масквы, Украіны, Літвы, Латвіі, Эстоніі».

Як гаворыцца далей у артыкуле «Камуніста Беларусі», на нарадзе былі прачытаныя наступныя даклады: «Заданьні гісторыкаў Беларусі ў сьвятле пастановаў XXI зьезду КПСС і пастановы ЦК КПСС з 9 студзеня 1960 году «Аб заданьнях партыйнай прапаганды ў сучасных умовах» і «Аб навуковай распрацоўцы пытаньняў гісторыі КПБ».

З тэмаў гэтых дакладаў зусім нядвузначна відаць і мэта ўсёй нарады. Маючы на ўвазе, што ў партыйнай пастанове «Аб заданьнях партыйнай прапаганды ў сучасных умовах» у дачыненьні да нацыянальных рэспублікаў на першы плян высоўвалася змаганьне супраць гэтак званага нацыяналізму, робіцца зусім ясным, якія патрабаваньні ставіліся беларускім гісторыкам на прыгаданай нарадзе. Гэтыя патрабаваньні стануцца зусім выразнымі ў канцы нашага агляду.

На нарадзе было адзначана, што «гісторыкі Беларусі ў вялікім даўгу перад народам». У прыватнасьці, крытыкаваўся двутомік «Гісторыя БССР» за некаторыя недакладнасьці. Зразумела, тое, што гэты двутомік павярхоўны, тэндэнцыйны, да непазнаньня перакручвае гістарычную мінуўшчыну нашага краю, зводзіць Беларусь да ролі інэртнай правінцыі расейскай імпэрыі, а беларускаму народу прыпісвае толькі адно гістарычнае імкненьне — аб'яднацца з «старэйшым рускім братам» ў адзінай расейскай дзяржаве, — гэтыя заганы двухтоміка, зусім нармальным парадкам, на нарадзе адзначаныя ня былі. «Крытыкавалася таксама амаль поўная адсутнасьць працаў з галіны гісторыі камуністычнай партыі Беларусі і беларускай работніцкай клясы.

У прыгаданым артыкуле «Камуніста Беларусі» падаецца, між іншага, і такі «аргумант» для «падбадзёраньня» беларускіх гісторыкаў:

«Сучасны этап сусьветнага разьвіцьця характарызуецца ўзмацненьнем ідэялягічнага змаганьня паміж дзьвюма сацыяльнымі сыстэмамі. **Буржуазныя ідэялёгі, разам з эміграцкімі пісакамі, у тым ліку і беларускімі буржуазнымі нацыяналістымі, якія знайшлі сабе прыпынак у ЗША, Заходняй Нямеччыне і іншых капіталістычных краінах, вядуць жорсткае змаганьне супраць ідэяў камунізму. Яны ўсяляк паклёпнічаюць на савецкі лад, на наш народ, фальсыфікуюць гісторыю савецкіх сацыялістычных рэспублікаў, у тым ліку й Беларусі. Савецкія гісторыкі, знаходзячыся на пярэднім краі ідэялягічнага фронту, павінны больш актыўна весьці змаганьне супраць буржуазнай ідэялёгіі, выкрываць усё і ўсякія антынавуковыя выдумкі фальсыфікатараў гісторыі.»**

Але ўсё гэтыя загады і падбадзёрваньні з боку партыі, відавочна, не зрабілі патрэбнага ўражаньня на гісторыкаў Беларусі. Прысутныя на нарадзе гісторыкі паводзілі сябе стрымана і насьцярожана. Аб гэтым сьветчаць наступныя словы з артыкулу «Камуніста Беларусі»:

«Вялікая роля крытыкі і самакрытыкі ў далейшым уздыме гістарычнай навукі ў Беларусі. Трэба, аднак, сказаць, што ў рэспубліцы на гістарычным фронце крытыка яшчэ разгорнута слаба. Гэта паказала і рэспубліканская нарада. Як у дакладах, гэтак і ў шматлікіх выступленьнях быў нізкі ўзровень крытыкі і самакрытыкі. Партыя вучыць нас, што навука разьвіваецца шляхам свабоднага абмену думкамі, шляхам ўсемагчымых абмеркаваньняў і дыскусіяў.»

Адносна мэтадаў распрацоўкі гісторыі, партыйны ворган —ССР зьвяртае ўвагу беларускіх гісторыкаў: «Партыя неаднаразова падкрэсьлівала, што гісторыя — гэта перш за ўсё партыйная навука». I вось гэтая «партыйнасьць» навукі і зьяўляецца галоўнай перашкодай для нармальнай працы гісторыкаў і найлепш сьветчыць аб тым, **хто і што выкрыўляе гістарычную праўду.** Беларускія гісторыкі разумеюць, абмяжоўваць гісторыю цэлага народу да бязьмежнага разьдзьмухваньня і ўзвышаньня ролі кампартыі, якая, у выпадку Беларусі, сталася носьбітам нацыянальнай трагедыі нашага народу — для сумленнага навукоўца — нягодная справа.

**Ю. Дубовік**

# У імя міжнароднай справядлівасьці

На нядаўным Інтэрнацыянальным кангрэсе юрыстых, што адбыўся ў Гамбургу, савецкі блёк выступіў і галасаваў супраць прынцыпу зарганізаваньня сталых вайсковых адзінак («Каманды») Задзіночаных Нацыяў для падтрыманьня парадку, і такім чынам хартыі вольнасьцяў, у сьвеце. Як зазначыў кіраўнік савецкай дэлегацыі, падобны пачынаньне бы будзе йсьці ў разрэз зь інтарэсамі паасобных народаў і дзяржаваў, асабліва нарушыць сувэрэнітэт тых народаў, якія ад нядаўната пачалі разбудоўваць сваю нацыянальна-палітычную незалежнасьць.

На днях рэха гэтага адбілася таксама й у Маскве, і Радыё Масква абвінавачіла Генэральнага сакратара Задзіночаных Нацыяў Дага Гамаршэльда ў злоўжываньні сваімі паўнамоцтвамі ў Конга, дакладней — у «служэньні заходнім імпэрыялістам». I гэта таму, што Гамаршэльд у канфлікце цэнтральнага ўраду Конга з адпаўшай ад Конга правінцыі Катанга заняў пазыцыю няўмешваньня ў чыста ўнутрана-палітычныя справы гэтых двух частак былшага бэльгійскага Конга, загадаўшы вайсковым адзінкам Задзіночаных Нацыяў у Конга й Катанга наглядаць толькі за цывільным парадкам. Маскве жадаецца бачыць вайсковыя адзінкі Задзіночаных Нацыяў на баку цэнтральнага кангалескага ўраду ці на баку старшыні міністраў Люмумбы, што дамагаецца ўлучэньня Катангі ў Конга ці сцэнтралізаванага Конга. А наагул-жа, ей не падабаецца як інтэрвэнцыя Бэльгіі, так і Задзіночаных Нацыяў, што й адбілася на спробах Масквы ачарніць гэтыя дзьве інтэрвэнцыі. Для яе найвыгаднейшай і «найсправядлівейшай» інтэрвэнцыяй была-б савецкая інтэрвэнцыя.

У чым-жа тут справа? Бязумоўна, Маскве нявыгадна палітычна мець справу зь міжнацыянальнай арміяй ці паліцыяй Задзіночаных Нацыяў, тым больш з арміяй, надзеленай правамі выконваць пастановы гэтае міжнароднае арганізацыі ды праводзіць у жыцьцё прынцыпы ейнай хартыі вольнасьцяў выключна ўсіх народаў і кожнага асобнага чалавека. Гэта было-б для Савецкага Саюзу раўназначна здаць свае палітычныя пазыцыі ў сьвеце, наагул распаду савецкае імпэрыі й савецкага камунізму. Пайменна дзеля гэтага яна выступае супраць ідэі зарганізаваньня сталае Каманды, а затым і сусьветнае паліцыі Задзіночаных Нацыяў, а не таму, што гэта «будзе нарушаць» сувэрэнітэт малых народаў і новаўзьнікшых нацыянальных дзяржаваў. Гэты сувэрэнітэт нідзе так больш не нарушаны й не нарушаецца, як у Савецкім Саюзе, наагул у савецкім палітычным блёку. А таму апошняя пададзеная прычына непадтрыманьня ідэі зарганізаваньня вайсковае Каманды Задзіночаных Нацыяў больш чым недарэчная й цынічная.

Што-ж тычыцца дзяржаўнага ўладжаньня Конга й гэтага савецкага абвінавачваньня Генэральнага сакратара Задзіночаных Нацыяў у падтрымцы сэпаратных рухаў, дык тут запраўды ня прычым ні Задзіночаныя Нацыі, ні Гамаршэльд. Справа ў тым, што Конга — краіна не аднародная, яна — толькі геаграфічнае паняцьце, пераянятае ад разьмежаваньня бэльгійскай калёніі. Тут знаходзіцца безьліч разнародных плямёнаў, прытым разнамоўных. Таму ня выпадае штучна тварыць аднанародную кангалескую дзяржаву й узбуджаць за гэта вялікія палітычныя канфлікты. Ды навет і саветы ўсьцяж крычаць з прычыны тварэньня «заходнімі імпэрыялістымі» штучных афрыканскіх народаў і дзяржаваў. Пайменна, яны абвінавачваюць Захад, што гэтыя апавяшчаюць новыя незалежныя афрыканскія дзяржавы, не прытрымоўваючыся нацыянальнага прынцыпу, але былшага каланіяльнага разьмежаваньня. Таму й выснаў савецкае прапаганды, што нацыянальнае разьмежаваньне ў Афрыцы можа наступіць толькі ў выніку прыходу да ўлады «пралетарыяту», які толькі «адзін» здольны разьвязаць нацыянальнае пытаньне, згодна савецкае практыкі, ведама.

З гэтага ўзгляду, Конга запраўды можа быць распадзелена на некалькі больш-менш аднародных дзяржаваў або тварыць тую ці іншую фэдэрацыю, чаго, між іншым, і дамагаецца старшыя міністраў Катанга Чомбэ. Крык Масквы з узгляду «прымусовага» разьдзяленьня Конга з мэтай новай калянізацыі «заходнімі імпэрыялістымі» — гэта крык таннае савецкае прапаганды, ськіваванае на здабыцьцё сымпатыяў цэнтральнага ўраду, або навет крык расейскіх «антысэпаратыстых», якія, асьлепленыя сваім вялікадзяржаўем, хутка здольныя забываць прынцыпы свайго «камунізму» й «ленінізму».

На фоне гэтае савецкае падвойнае палітычнае ігры на міжнародным форуме цікава будзе тут прасьлядзіць апошнія савецкія канцэпцыі пра нацыянальнае, нацыяналізм і дзяржаўную незалежнасьць нерасейскіх народаў. Як гаварылася вышэй, Савецкі Саюз уяўляе сабой ужо даўно аджыўшую імпэрыю, у якой нерасейскія народы пераджываюць самую жудасную каляніяльную няволю, самае жудаснае нацыянальнае прыгнечаньне. Для іх якраз патрэбна інтэрвэнцыя Задзіночаных Нацыяў, каб прасячы гэтае маскоўскае самавольства, савецкі каляніялізм і нявольніцтва. Таму зьдзекам для падсавецкіх народаў зьяўляецца асьветчаньне савецкае дэлегацыі на Інтэрнацыянальным кангрэсе юрыстых, што міжнародная вайсковая Каманда Задзіночаных Нацыяў пагражае сувэрэнітэту для паасобных народаў і нацыянальных дзяржаваў. Мы згодны, што гэтая ідэя пагражае існаваньню савецкае каляніяльнае імпэрыі, але толькі не падсавецкім народам і другім незалежным дзяржавам Эўропы, Амэрыкі, Азіі й Афрыкі. Яны не натолькі вялікадзяржаўныя й шавіністычныя, каб не разрозьніць міжнароднае супрацоўніцтва й

(Заканчэньне на 2-ой бач.)

# Заходняя прэса аб палажэньні ў Конга

Падзеі ў Конга разьвіваюцца зь нязвычайнай хуткасьцяй, кажны дзень прыносіць нешта новае. У дадзены мамэнт цяжка прадбачыць, чым кончацца разрухі ў гэтай краіне. Таму мы пазнаёмім нашых чытачоў з тэй ацэнай, якую дае палажэньню ў Конга прэса некамуністычнага сьвету.

Газэты краінаў Заходняй Эўропы, Амэрыкі і Азіі выяўляюць сур'ёзную заклапочанасьць адносна далейшага лёсу рэспублікі Конга. У шэрагу выпадкаў гэтыя газэты рашуча асуджаюць палітыку прэм'ера Люмумбы, асабліва ў дачыненьні да Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў.

Ангельскія газэты называюць паводзіны Люмумбы «безадказнымі».

Лібэральная газэта «Ньюс Кронікл» піша, што заявы Люмумбы ў адрас Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў набываюць усё больш недапушчальны характар. «Ягоныя паводзіны, — піша газэта, — сьветчаць аб ягонай поўнай безадказнасьці і няздольнасьці аднавіць парадак у краіне. Люмумба дзейнічае сам супраць сябе і сваёй нястрыманасьцяй дае козыры ў рукі фэдэралістых».

Орган ангельскага прафсаюзнага руху, газэта «Дэйлі Гэральд» заяўляе, што безадказнасьць Люмумбы небясьпечная. «Арганізацыя Задзіночаных Нацыяў не павінна спыняць сваіх дзеяньняў у Конга пад уплывам безадказных заяваў Люмумбы, які спачатку просіць Арганізацыю Задзіночаных Нацыяў дапамагчы яму аднавіць парадак, а потым сам спрые хаосу».

Кансэрватыўная ангельская газэта «Дэйлі Мэйл» уважае, што Люмумба павінен адыйсьці. «Галоўная крыніца непарадкаў у рэспубліцы Конга — гэта ейны ўласны прэм'ер. Калі-б ён змог справіцца з палажэньнем пасьля адыходу бэльгійскага войска, дык ён заваяваў-бы сымпатыі сусьветнай грамадзкасьці. Аднак ягоныя дзеяньні цяпер цяжка вытлумачыць і апраўдаць: спачатку ён просіць аб накіраваньні амэрыканская войска ў Конга, потым дамагаецца выезду ўсіх белых вайскоўцаў з Конга, потым пагражае заклікаць на дапамогу савецкае войска, потым заяўляе, што ён акупуе непакорную правінцыю Катанга сваім уласным войскам. Конга трэба выратаваць ад такога згубнага кіраўніцтва».

Француская газэта правага кірунку «Орор» пытаецца: «Як далёка пойдзе Люмумба? Правільней, як далёка дазволіць яму пайсьці Арганізацыя Задзіночаных Нацыяў? Гамаршэльду яўна не ўдалося пераканаць Люмумбу падпарадкавацца голасу розуму».

Левая француская газэта «Комба» зазначае, што Люмумба даў выразна зразумець Гамаршэльду, што ён не задаволены дзеяньнямі Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў. «Трэба прызнаць, улічваючы прыклад Конга, што ўрады некаторых маладых афрыканскіх дзяржаваў крыху перабольшваюць значэньне ім дадзеных паўнамоцтваў, а некаторыя элемэнты насельніцтва афрыканскіх краінаў блытаюць паняцьце «свабода» з прынцыпам «усё дазволена».

На думку газэты «Комба», Арганізацыя Задзіночаных Нацыяў зрабіла памылку, паставіўшы на карту свой аўтарытэт, калі яна ўмяшалася ў справы яўна ўнутранага парадку.

Умеркаваная француская газэта «Фігаро» піша, што палітыку Люмумба можна схарактэрызаваць, як «расызм навыварат». «Люмумба, — піша газэта «Фігаро», — самы сапраўдны расысты. Ягоная палітыка прынцыпова накіраваная супраць усіх людзей белай расы. Магчыма, што Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў не застанецца нічога іншага, як узяць больш жорсткі курс у пытаньні аб Конга».

Амэрыкансякая газэта «Вашынгтон Пост» надкрэсьлівае ўсю цяжкасьць заданьня Гамаршэльда ў Конга. «Яму давядзецца мець справу з тэй горкай спадчынай, — піша газэта, — якую пакінулі ў Афрыцы пасьля сябе белыя». На думку газэты «Вашынгтон Пост», падазронае стаўленьне Люмумбы навет да Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў тлумачыцца менавіта гэтай гістарычнай спадчынай. «Але пры ўсім жаданьні неяк зразумець псыхалёгію Люмумбы, — піша газэта, — нельга ня прызнаць, што ягонае дамаганьне, каб у Конга дзейнічалі толькі кантынгенты афрыканскіх краінаў — гэта расызм, толькі наадварот».

Інданэзыйская газэта «Таймс оф Інданэзія» піша, што Конга ня было гатовае да незалежнасьці. «З гэтым фактам мы павінны лічыцца, ня гледзячы на тое, што мы анты-каляніялістыя. Было-б зусім бязгрунтоўна нам, якія маюць зусім зразумелую сымпатыю да народу Конга уважаць, што жменька інтэлігенцыі змагла-б устанавіць парадак і законнасьць у сваёй краіне. Час адкінуць усякую сантымэнтальнасьць, — працягвае інданэзыйская газэта, — і прызнаць, што насельніцтва Конга само ня здолее паставіць краіну на ногі. Трэба стварыць нейкую камісію ў складзе эўрапэйскіх, афрыканскіх і азіяцкіх сяброў АЗН (за выключэньнем пяці вялікіх дзяржаваў), якая ўзяла-б на сябе заданьне кіраўніцтва Конга і забесьпячэньня ейнага насельніцтва, пакуль гэтая рэспубліка ня будзе падрыхтаваная да поўнай самастойнасьці».

# У імя міжнароднай справядлівасьці

(Заканчэньне зь 1-ай бач.)

сужыцьцё, аснованыя на прынцыпах абсалютнае павагі, згоды й мірнага суіснаваньня, ад цынічнага «інтэрнацыяналізму» пад кіраўніцтвам выбранага гісторыяй ... расейскага народу. Гэта паказала, між іншым, і праца Інтэрнацыянальнага кангрэсу юрыстых у Гамбургу, дзе ў жалезнай ізаляцыі — ад справядлівага вырашэньня міжнародных праблемаў — застаўся толькі адзін Савецкі Саюз з сваімі марыянэткамі — краінамі «народнай дэмакрацыі».

Таксама, як гэта даўно вядзецца ў Савецкім Саюзе, нацыянальная апрычонасьць ці найменшыя імкненьні да гэтых прыродных пацягаў чалавека й народаў тут называюцца «дзяржаўнай» здрадай, так званай «агентурай імпэрыялізму» заходніх дзяржаваў. Як сьцьвярджалася ў нашых папярэдніх артыкулах, падобнае абвінавачваньне асабліва завайстрылася апошнім часам, што прывяло навет да інсцэнаваньня у падсавецкіх нацыянальных рэспубліках так званых «працэсаў» супраць «нямецкіх супрацоўнікаў» другое сусьветнае вайны й актуальных «амэрыканскіх шпіёнаў» (заўсёды «буржуазных нацыяналістых») з мэтай «паказаць» народам, куды вядзе іх гэты ўхіл да «буржуазнага нацыяналізму». Наагул-жа той самы «буржуазны нацыяналізм» знаходзіцца й у апрычонай рытміцы й думцы кажнага вершу, і ў апрычонай хварбе й сюжэце малярскага твору, і у гістарычных працах пра мінулае свайго народу, і г. д., нарэшце ў супраціве нерасейскіх народаў безгаворачна прыняць гісторыю, культуру й мову расейскага народу.

Бачыце, пад сонцам можа існаваць толькі расейскі народ зь ягонай прымітыўнай велічай да сусьветнага паняваньня, да распаўсюджваньня свае аднабаковае й адвольнае палітычнае ўлады свае «інтэрнацыянальнае» культуры й мовы.

Апошнім часам гэтыя маскоўскі прымітывізм дайшоў навет да таго, што наагул пачаў адмаўляць паняцьце нацыі, сутнасьць нацыі, наяўнасьць нацыі. Ведама, гэта адносіцца толькі да нерасейскіх народаў. Расейская нацыя як існавала, існуе, так і будзе існаваць. Пытаемся, дзе тут падзеўся «карыфэй» сацыяльных навук «вялікі» Ленін, які, хоць і змагаўся з нацыянальнымі імкненьнямі нерасейскіх народаў, але ўсётакі прызнаваў існаваньне нацыяў і народаў.

Вось што па гэтаму пытаньню пісаў нядаўна ідэялягічны часапіс савецкіх гісторыкаў «Вопросы истории»: «Ленінізм нарадзіўся ў Расеі, але ён ніколі ня быў для Вугоршчыны замежным, імпортным прадуктам. Буржуазны-ж нацыяналізм, які зьявіўся нічым іншым, як перасадкай рэакцыйных заходніх і асабліва нямецкіх паглядаў і лёзунгаў, узапраўднасьці чужы грамадзкім і нанацыяналізм быў ідэйна сілай контррэваду... У 1956 годзе гэты-ж буржуазны нацыяналізм быў ідэяй сілай контррэвалюцыі ...» («Вопросы истории», 1960, Нр. 4, б. 14).

Праўда, гэтыя словы належаць здрадніку вугорскага народу Янашу Кадару, але яны былі заказаныя Савецкім Саюзам, адрэдагаваныя савецкім ідыялёгамі й зьмешчаныя ў савецкім ідэялягічным часапісе, а значыцца й зьявіліся як-бы чыстым савецкім прадуктам. Ды нарэшце такі савецка-маскоўскі пагляд захоўваецца ў асьветчаньнях, што «буржуазны нацыяналізм» падсавецкіх нерасейскіх народаў мее свае карэньні ў «замежнай агентуры». Такім чынам, хоць крыху адменнае, але абое рабое.

Што трэба разумець пад гэтай савецка-расейскай навінкай? Чыстае адмаўленьне нацыяў і існаваньня апрычоных народаў, бо дзе існуюць нацыі й адменныя народы, там-жа існуе таксама й гэты прыроджаны «буржуазны нацыяналізм», тым больш буржуазны нацыяналізм у савецкім зразуменьні, г. зн. хоць-бы найменшая й інстынктоўная самасьведамасьць, простае чалавечае «я». Ці ж гэтым самым нерасейскія нацыі й народы заслужаныя на зьнікненьне? Як апрычоныя народы й нацыі, так, але ня фізычна. Яны, бачна, мусяць дапоўніць «нацыянальную гордасьць расейскага народу», пра што часта гаварыў Ленін і цяпер любяць паўтараць ягоныя спадкаемцы.

Праўда, хоць гэта чыстае вады савецка-расейская фантазія, але Масквой прыймаюцца ўсе магчымыя спосабы для зьнішчэньня нацыянальнае сьведамасьці нерасейскіх народаў, якія трапілі ў ейнае павуціньне. А таму сьмешнымі паказваюцца падобныя намаганьні Масквы запабегчы прагрэс людзтва, як хоць-бы асудзіць ідэю юрыстых вольнага сьвету стварыць міжнародную паліцыю для падтрыманьня сьветавога парадку й асудзіць «у імя міжнароднае справядлівасьці», ды ейныя «клопаты» пра сувэрэннасьць Конга й кангалескага народу.

**П. Залужны**

# Прынцыпы савецкай палітыкі...

(Заканчэньне зь 1-ай бач.)

Такім чынам, недапушчэньне да ўлады эканамічна слабое нацыянальнае буржуазіі й падтрымка пралетарыяту, а, значыць, і ультра-левых групаў у іх змаганьні за ўладу — зьяўляецца асновай палітыкі савецкага камуністычнага кіраўніцтва ў афрыканскіх калёніях. Пры гэтым асуджаецца дасягненьне незалежнасьці шляхам паступовых рэформаў і канстытуцыйных зьменаў ды апраўдваецца прыход у афрыканскіх калёніях да ўлады пралетарыяту шляхам сілы.

Як ведама, Канфэрэнцыя народаў Афрыкі, што адбылася ў сьнежані 1958 году ў Акры, у сваіх запросінах паказвала, што «галоўная мэта Канфэрэнцыі народаў Афрыкі ... будзе ў тым, каб сфармуляваць канкрэтныя пляны й выпрацаваць гандыстаўскую тактыку й стратэгію афрыканскай безгвалтоўнай рэвалюцыі». Якраз за гэтую тэндэнцыю ажыцьцяўленьня нацыянальнага вызваленьня мірнымі шляхамі — шляхамі паступовых канстытуцыйных рэформаў і шляхам перамоваў і ўгодаў, «Проблемы Востоковедения» і крытыкуюць арганізатараў Канфэрэнцыі народаў Афрыкі ў Акры. Праўда, у выніку дыскусіі ў рэзалюцыі, прынятай на Канфэрэнцыі, было сказана, што Канфэрэнцыя поўнасьцяй падтрымлівае ўсіх змагароў за свабоду — як тых, што дабіваюцца яе мірным шляхам, ужываючы мэтады пасыўнага супраціву й грамадзкага непадпарадкаваньня так і ўсіх тых, «хто зьмушаны адказваць на сілу сілай».

Аднак-жа, навет апраўданьне канфэрэнцыяй мэтаду гвалту, як адказу «на гвалт», часапісу «Пролемы Востоковедения» здаецца зусім недастатковым. Часапіс лічыць, што «практыка паказвае, што ў нашыя часы заваёва калёніямі палітычнай незалежнасьці мірнымі, канстытуцыйнымі сяродкамі магчымая, але адмаўляць права прыгнечаных народаў на **ініцыятыву ў выкарыстаньні гвалту** (падкрэсьлена намі) — значыць прызнаваць прыгнятальнікам права паступаць паводля свайго погляду й чыніць самавольства.»

У сьвятле гэтага апраўданьня ініцыятывы гвалту, як мэтаду змаганьня, асаблівае значаньне мае слова Хрушчова на прэсканфэрэнцыі 12 ліпеня сёлета, які назваў палітыку бэльгійскага ўраду ў Конга «разбойніцкай палітыкай», а непадпарадкаваньне жаўнераў кангалескай арміі бэльгійскім ахвіцэрам і праводжаныя жаўнерамі гвалты — правільнымі паступкамі.

(Бюл. Радыя «Свабода»)

**Абрам Тэрц**

# Суд ідзе

**(Працяг)**

☆

Сяргей із станцыі паехаў проста да бабкі.

— Ты вырас і загарэў.

Не ўстаючы, яна выцягнула руку.

— Ну куды цалавацца лезеш? Пачакай — дадрукую бачынку.

І застукала на машынцы.

— Як справы з бульбай? Дажджоў спалохаліся? Таксама мне — дзеткі!

Мы ў тваім веку ў турмах сядзелі. Есьці хочаш? Вазьмі за вакном, падагрэй. Ды расказывай ты, расказывай хутчэй. Пасьля зможаш паесьці.

Бабка — дзіўная. Калі-б усе былі такія — камунізм наступіў-бы даўно. Яе-б — у калгас. Яна ім пакажа!

Аднак, выслухаўшы Сяргея, Кацярына Пятроўна маўчала. А пасьля яшчэ больш люта застукала клявішамі машынкі. Машынка трашчэла як кулямёт. Бабка, прыгнуўшыся на крэсьле, расстрэльвала з упору, не прыцэльваючыся.

— Так і ведала — памылка. Давядзецца перапісаць. Гэта — усё ты вінаваты: пад руку размаўляеш.

Яна ўклала новую абойму. Сяргей цёрся шчакой аб сьпінку крэсла заглядваючы праз плячо.

— Цэлую бачынку? Нанава? Зза аднае памылкі? Усядно кніжка твайго пісьменьніка нікому непатрэбная.

— Як гэта непатрэбная? — зьдзівілася Кацярына Пятроўна. —Ты сам кажаш — у паасобных калгасах яшчэ ёсьць недахопы. А тут-жа, — яна тыцнула ў рукапіс, — паданы ўзор. Электрадаілкі, электраплугі. Няхай бяруць прыклад. Мова, праўда, кепская і каханьня за шмат.

— Я чытаў, — адмахнуўся Сяргей. — Усё гэта суцэльнае ўзорна-паказальнае ілганьне.

— Цішэй! Апамятайся!

Аднак Сяргей быццам каціўся з гары:

—Я знаю ... Я сам бачыў ...

Тады яна паднялася. Калі-б не маршчыны — дзяўчынка, ну проста — дзяўчынка. Падстрыжаная, стройная, у белым каўнерыку.

— Гэта, гэта ... Ты разумееш, што ты кажаш?

— Знаю ... бачыў ... — ня спыняўся Сяргей.

— Нічога ты ня ведаеш. Гэта ворагі гавораць. Тыя, што супраць ... Але як ты можаш? Запраўды, як ты можаш?

Бабуля задыхалася. Сухія, як сена, космы лезьлі ў розныя бакі.

—Я зусім ня супраць ... Я й жыцьцё, і што хочаце. Ты, бабуля, як той бацька. З вамі й пагутарыць немагчыма ... Вось, каб мама яшчэ жыла ...

Ён усхліпнуў і адразу стаўся маленькім. Мілае, дурненькае дзіцё, сірацінка ты мая. Ёй хацелася паплакаць разам зь Сяргеем. Але яна разумела — нельга — трэба спыніць — трэба быць срогай.

— Не раві. Ты ўжо вялікі. Мы ў тваім веку ў турмах сядзелі. Рэвалюцыю рабілі.

А ён ужо равеў, уткнуўшыся ў калені. Ясны пушок віўся на патыліцы.

— Сяньня яшчэ пойдзеш у цырульню. Супакойся, ворагам народу ніхто цябе ня лічыць. А вось самапэўнасьць у цябе бацькавая. Ну, што ты бачыў у жыцьці? Не раві.

Сяргей слухаў, як уздрыгваюць ягоныя плячукі і, дзівячыся з гэтага, плакаў яшчэ мацней.

— І з бацькам мяне, калі ласка, не параўноўвай. Мы зь ім — розныя людзі.

— А мы з табой? — напытаўся Сяргей, не падымаючы твару.

Ён ведаў, што аб гэтым пытацца сорамна, але ўжо калі ён плача як маленькі, — ўсяроўна.

— Дома табе лепш покуль-што не паказвацца. У іх там сямейныя звадкі. Пажывеш у мяне.

— А мы ўжывемся, бабуля? Я сваіх прынцыпаў не пакіну.

— Якія ў цябе прынцыпы! Ты думаеш, я старая, нічога ня бачу, не заўважаю. Я, магчыма, больш за цябе дрэннага ведаю. Але-ж, Сяргейка, ты сам разумееш — трэба верыць, абявазкова трэба верыць. Гэтаму-ж усё жыцьцё аддадзена, гэта — мэта наша ...

Сяргей лёг на сьпіну й адкрыў вочы.

— Ведаеш што, бабуля, — сказаў ён шчасьлівым , сырым голасам. — Я прыйшоў да высnаву: нам толькі адно цяпер можа дапамагчы — сусьветная рэвалюцыя. Як ты ўважаеш — будзе сусьветная рэвалюцыя?

— Ну няўжо-ж можна ў гэтым сумлявацца? Зразумела —будзе! Хадзі лепш я табе паесьці падагрэю, — сказала бабуля.

✶

Ня ведаючы, куды дзецца, яны зацягнуліся ў плянэтарыюм. Прынамсі тут таньней і цямней, чымся ў рэстаране — сьцяміў Юры. А дамоў да яго Марына йсьці покуль-што ўпёрлася: відаць, не надыйшоў яшчэ час.

Над імі — па ўсім купале — адлюстравалі сьветабудову. Яна завісла більёнамі зорак і ціханька круцілася, паскрыпваючы на заваротах, быццам запраўднае неба. Яна раскрывала махнатыя нетры і, вываліўшы зьмесьціва, дазваляла пераканацца, што Бога — няма.

Сусьвет быў пусты. І гэтая пусьціня была такая вялізарная, што немагчыма ўявіць, і такая бязмэтная ў сваей бязьмежнасьці, што Юраму йзноў, як тады, у пасьцелі, стала нядобра.

На шчасьце, гэтым разам побач сядзела Марына. У цемені ад яе цягнула парфумамі больш, чымся на сьвятле. Ейная прысутнасьць пераконвала, што ты таксама йснуеш. Больш навет, уносіла нейкі сэнс у гэтую зорную бяссэньсіцу, расьхінутую над галавой. Яна прыпамінала мэту, за якую трэба змагацца. І Юры, як было прадугледжана, пачаў прызнавацца ў каханьні.

Ён расказаў усе тыя мілыя дурнічкі, якія ўжываюць закаханыя, маўляў, яму няма жыцьця безь яе, і мучаецца, і ня сьпіць. Марына не адказвала; але ейнае дыханьне сталася насьцярожаным, і ён наважыўся поўнасьцяй правесьці задуманы плян.

Сутнасьць яго была ў тым, каб прытварыцца нешчасьлівым. Не, на ейнае спачуваньне Юры й не разьлічваў, ён стаўляў на лёсткі — гэта больш пэўна. Кажнай жанчыне прыемна, што зза яе церпяць, а калі яна сумленная жанчына, яна захоча адудзячыцца. І Юры расказваў ёй на вуха, які ён слабы й маленькі, і, паніжаючы сябе, патакваў ейнай самалюбнасьці, бо-ж яна павінна была думаць, што ён нікчэмны зь ейнае віны.

А на небе тымчасам паясьнела, бо ўзыйшло Сонца. Яно было вялікае, як дыня, і змушала лётаць за сабой мізэрныя плянэты. Усім гэтым уладжаньнем кіраваў астраном-прафэсар, што прытаіўся ў кутку. Ён цьвердзіў, што Зямля круціцца навокал Сонца, а не наадварот, як цьвердзяць невукі й цемрашалы.

Гэта расьсьмяшыла Юрага: Зямля, напэўна, думае, што яна — Сонца. Няхай думае. Але затое яму добра ведама, хто зь іх мэта, а хто сяродак, і дзе запраўднае Сонца. Яно круціцца толькі навокал сябе, адзінага, любімага. Сонца ня мае іншых мэтаў, апрача самога сябе.

А сам казаў:

— Марына Паўлаўна, будзьце маім Сонцам. Вы-ж — гэта цэнтар арбіты, на якой я кручуся. Усе мае найлепшыя якасьці — гэта толькі адлюстраваньне вашае вялікапышнасьці ...

І гэтак далей і да гэтага падобнае — усё аб тым, як жалюгодны й малы ў параўнаньні зь ёй — ён, ён! — неацэнны й першы.

— Зараз пачнецца зацьменьне, — абвесьціў прафэсар магільным голасам.

І зацьменьне пачалося —ды яшчэ якое! Такіх зацьменьняў — сам прафэсар прызнаўся — у жыцьці не пабачыш, а калі й бываюць калісьці, дык — раз на сто гадоў. Сонца зьнікла, быццам яго праглынулі. Пад спадніцай сусьвету зрабілася зусім цёмна. Цямней, чымся ночай, таму што ночай сьвеціць Месяц, а тут Месяц толькі й рабіў, што засланяў Сонца. Толькі электрычныя зоркі ледзь заўважна міраглі. Тады ён зразумеў — пара!

Марына цалавала, не разьнімаючы зубоў. І ўжо адпіхнула. Але сумлеваў не магло: тут, у нябеснай пустыні, пад патухшым Сонцам, Марына плаціла за лёсткі.

Марына цалавала, не разьнімаючы зубоў. І ўжо адпіхнула. Але сумлеваў быць не магло: тут, у нябеснай пустыні, пад патухшым Сонцам, Марына плаціла за лёсткі.

... Калі запалілі сьвятло, ейнае аблічча захоўвала ганарысты супакой, і ехаць да яго на кватэру яна йзноў адмовілася.

— Чым вы занятыя? Куды вы сьпяшаецеся? — дапытваўся Юры.

— Важная справа, — усьміхнулася Марына з таямнічай мінай. — А вы, Юры Міхайлавіч, перавышаеце свае правы. Ужо забыліся, што Зямля круціцца навокал Сонца, а ня Сонца навокал Зямлі?

# Студэнты перад абліччам дзьвёх ідэялёгіяў

У Клёстэрсе (Швайцарыя) нядаўна адбывалася 9-ая Міжнародная Студэнцкая Канфэрэнцыя. Дарэчы тут будзе спыніцца на падзеі, якая мела месца таксама ў Швайцарыі, у Базэлі, перад пачаткам Міжнароднай Студэнцкай Канфэрэнцыі — ад 17-га да 19-та жніўня. Мы маем на ўвазе «дыскусію за круглым сталом у справе сусьветнага адзінства студэнтаў». Падзея гэтая цікавая перш за ўсё тым, што гэта была першая спроба ад часу расколу сусьветнага студэнцтва сабраць за адным сталом прадстаўнікоў як некамуністычнага, так і камуністычнага сьвету.

Тут трэба зрабіць кароткую гістарычную даведку. Ужо ў часе другой сусьветнай вайны сярод студэнцтва розных краінаў узьнікла ідэя стварыць арганізацыю ў сусьветным маштабе, якая баараніла-б інтарэсы студэнтаў. У 1946-ым годзе такая арганізацыя была створана ў форме Міжнароднага Саюзу Студэнтаў. Аднак ужо на працягу наступных двух год выявілася, што афіцыйныя прадстаўнікі студэнтаў падкамуністычных краінаў цікавяцца студэнцкімі пытаньнямі толькі ў такой ступені, у якой яны могуць служыць мэтам сусьветнага камунізму. Хітрымі маніпуляцыямі гэтыя камуністычныя апаратчыкі ператварылі кіраўнічыя ворганы новай арганізацыі ў зброю свае палітыкі, зусім ня лічачыся з думкай дэмакратычнай бальшыні. Мірыцца з такім палажэньнем гэтая дэмакратычная бальшыня не магла і пакінула Міжнародны Саюз Студэнтаў.

У 1950-ым годзе ў Штакгольме, зь ініцыятывы саюзаў студэнтаў Скандынаўскіх краінаў, была скліканая міжнародная студэнцкая канфэрэнцыя. Там было пастаноўлена, што супрацоўніцтва паасобных нацыянальных саюзаў можа базавацца толькі на поўнай раўнапраўнасьці гэтых саюзаў, і пастановы ўва ўсіх прынцыповых пытаньнях могуць прыймацца толькі на Міжнародных Студэнцкіх Канфэрэнцыях. Гэтая форма супрацоўніцтва выключае магчымасьць незаконнага выкарыстоўваньня сусьветнага студэнцтва як зброю тэй ці іншай палітычнай ідэялёгіі.

Ідэя **такога** супрацоўніцтва знайшла шырокі водгук сярод студэнтаў цэлага сьвету: калі ў 1950-ым годзе ў першай Міжнароднай Студэнцкай Канфэрэнцыі браў удзел 21 нацыянальны саюз студэнтаў, дык сёлета, ў 9-ай Міжнароднай Студэнцкай Канфэрэнцыі прадстаўлена звыш 70-ці студэнцкіх саюзаў самых розных расаў з усіх кантынэнтаў сьвету. Характэрна тое, што некаторыя студэнцкія саюзы, якія зьяўляюцца сябрамі апанаванага камуністымі Міжнароднага Саюзу Студэнтаў, бяруць таксама актыўны ўдзел і ў працах міжнародных слудэнцкіх канфэрэнцыяў. Але афіцыйныя прадстаўнікі студэнтаў **падкамуністычных** краінаў — за выняткам Югаславіі — заўсёды застаюцца збоку.

Усё-ж, студэнцтва вольнага сьвету ня спыняе высілкаў, каб пашырыць на ўсіх супрацоўніцтва ў пытаньнях, якія закранаюць інтарэсы студэнтаў цэлага сьвету. На 8-ай Міжнароднай Студэнцкай Канфэрэнцыі, якая адбылася летась у Пэру, было выказанае пажаданьне склікаць перад 9-ай МСК гэтак званую канфэрэнцыю круглага стала з мэтай, як гаварылася ў рэзалюцыі, «далейшага прагрэсу ў кірунку ажыцьцяўленьня ўсеагульнага студэнцкага супрацоўніцтва і адзінства». Была вызначаная наступная база: змаганьне за мір, супраць каляніялізму, за нацыянальную самастойнасьць, а таксама супрацоўніцтва студэнтаў у практычных пытаньнях.

Ініцыятыву скліканьня гэтай дыскусіі за круглым сталом узяў на сябе Саюз швайцарскіх студэнтаў, які гасьціў у сябе і ўдзельнікаў цяперашняй 9-ай Міжнароднай Студэнцкай Канфэрэнцыі.

На дыскусію за круглым сталом — якая, як мы казалі, адбывалася ад 17-га да 19-га жніўня — былі запрошаныя ўсе студэнцкія арганізацыі, у тым ліку і падкамуністычных краінаў. Аднак дэлегацыі камуністычнага блёку не зьявіліся. А здавалася-б, што можа быць шкоднага ў дыскусіі над магчымасьцямі супрацоўніцтва?

Гэтае пытаньне ставілі сабе і некаторыя арганізатары дыскусіі. Але хутка іхнае расчараваньне яшчэ пабольшылася. Справа ў тым, што на дыскусію за круглым сталом прыехалі некалькі дэлегатаў паўдзённа-амэрыканскіх краінаў, студэнцкія саюзы якіх знаходзяцца пад уплывам камуністых і зьяўляюцца сябрамі прыгаданага намі Міжнароднага Саюзу Студэнтаў. У Швайцарыю прыехалі гэтыя дэлегаты чамусьці не з Паўдзённай Амэрыкі, а з Прагі. Чаму — гэта хутка высьветлілася. Ад першага паседжаньня сталася ясным, што яны сюды пасланыя і шукаюць толькі нагоды, каб сарваць дыскусію над магчымасьцямі супрацоўніцтва студэнтаў.

І вось, яшчэ перад пачаткам канфэрэнцыі за круглым сталом — напярэ-

**(Заканчэньне на 4-ай бачыне)**

# Новыя тэхнічныя дасягненьні ЗША

Амэрыканскія вучоныя змаглі пахваліцца немалаважнымі дасягненьнямі, якія адчыняюць новую бачыну ў гісторыі падрыхтоўкі міжплянэтных палётаў зь пілётам. Ім упяршыню ўдалося дамагчыся павароту з касьмічнай прасторы штучнага спадарожніка Зямлі, правільней кажучы не ўсяго спадарожніка, а ягонай пайболь важнай часткі — кантэйнэра ці кабіны з навуковай апаратурай.

Спадарожнік, запушчаны ў сераду 10-га жніўня, быў 13-ым зь ліку сэрыі спадарожнікаў тыпу «Дысковэрэр». Ён быў запушчаны з дапамогай трохступечнай ракеты і выйшаў на вызначаную палярную арбіту, якая мае форму моцна выцягнутага эліпсу: «Дысковэрэр 13» кружыўся навокал Зямлі на вышыні ад 250 да 7-мі тыся кілямэтраў.

Выштурхоўваньне кантэйнэра з навуковай апаратурай адбылося на сыгнал зь Зямлі ў мамэнт, калі «Дысковэрэр» пралятаў на сваім 17-ым абароце на вышыні прыблізна 300 кілямэтраў, у раёне над Паўночным Полюсам. У гэты мамэнт рэгулюючая прылада спадарожніка павярнула яго на 30 градусаў у напрамку Зямлі і кантэйнэр вагою 136 кіляграмаў быў выкінуты з спадарожніка. Першыя сэкунды кантэйнэр працягваў рух па арбіце спадарожніка, але пасьля ўступілі ў дзеяньне тормазныя ракеты, і сіла прыцяганьня пацягнула кантэйнэр на Зямлю. Вольнае паданьне кантэйнэра трывала 7 мінут. Калі ён спусьціўся да вышыні 45 кілямэтраў — раскрыўся парашут, і кантэйнэр на працягу 10-ці мінут паволі спушчаўся ў вызначаны раён каля Гавайскіх абтокаў.

Хутка пасля гэтага, у Злучаных Штатах быў запушчаны другі штучны спадарожнік Зямлі «Рэха-І» — трыццацімэтровы балён з газам у якасьці «радыялюстра», якое адлюстроўвае радыясыгналы. Балён быў запушчаны у складаным выглядзе з дапамогай трохступеннай ракеты тыпу «Тор-Дэльта». Пасьля выхаду апошняй ступені на арбіту на вышыні паўтары тысячы кілямэтраў, пакрытая пластом алюмінію абалонка была напоўненая газам на сыгнал зь зямлі. Спадарожнік працягвае свой рух вакол Зямлі і ўначы яго можна добра бачыць голым вокам.

Важным тэхнічным дасягненьням амэрыканцаў было устанаўленьне новага неафіцыйнага рэкорду, зробленага амэрыканскім рэактыўным самалётам тыпу «ЭКС-15», які дасягнуў вышыні 39 з палавінай кілямэтраў. Самалёт «Экс-15» прызначаны для падрытоўкі касьмічных палётаў зь пілётам. Ён падвешваецца пад чатырохматорным рэактыўным самалётам і спускаецца для самастойнага палёту на вялікай вышыні. Нядаўна гэты самалёт паставіў новы рэкорд хуткасьці, дасягнуўшы 3-ох тысяч 440 кілямэтраў у гадзіну. Цяпер самалёт «Экс-15» забясьпечаны рэактыўным маторам зь цягай, роўнай 8-мі тысячам кіляграмаў. Заканчваецца пабудова новых рэактыўных матораў для самалётаў гэтага тыпу зь цягай, роўнай 30 тысячам кіляграмаў. Чакаюць, што з дапамогай гэтых матораў самалёт зможа разьвіць хуткасьць да 6-ці з палавінай тысяч кілямэтраў у гадзіну і падняцца на вышыню 150-ці кілямэтраў. Наступным крокам будзе самастойны выхад такога самалёта на арбіту ў якасьці штучнага спадарожніка Зямлі.

# „Буржуазныя перажыткі" ці вынікі „сацыялістычнага" ладу

Перадавіца «Камуніста Беларусі» за чэрвень гэтага году прысьвечаная пытаньню выхаваньня падсавецкага чалавека ў духу камунізму. Ейны загаловак — «Савецкая грамадзкасьць і выхаваньне чалавека». Як вынікае з гэтага артыкулу, гэтак званыя «чужыя савецкаму сацыялістычнаму грамадзтву перажыткі буржуазнага мінулага» — крымінальныя злачынствы і гэтак званыя злачынствы супраць сацыялістычнага грамадзкага парадку — знаходзяць вельмі спрыяльную глебу, моцна ўкарэненыя і квітнеюць у сучасным «сацыялістычным» грамадзтве ў Беларусі. Сярод гэтых «перажыткаў», апрача злачынстваў звычайных відаў — жульніцтва, дармаедзтва, хуліганства — пералічаюцца тыповыя «сацыялістычныя» злачынствы — «праявы прыватнаўласьніцкай псыхалёгіі і бужуазнай маралі»: крадзеж і растраты дзяржаўнай маёмасьці, парушэньне законаў і правілаў сацыялістычнага сужыцьця і іншыя. Асабліва пашырылася ў Беларусі гнаньне самагонкі і п'янства.

Як ведама з розных крыніцаў, для вялікай колькасьці сем'яў, асабліва калгасьнікаў, гнаньне самагонкі зьяўляецца значнай крыніцай грашовых прыбыткаў, якія пазваляюць так-сяк сьцягнуць канцы з канцамі і ўтрымацца пры жыцьці. Самагонка карыстаецца вялікім попытам, асабліва сярод работнікаў і служачых у гарадох і на розных будоўлях, таму што гэтая катэгорыя насельніцтва мае больш за іншых грошай, каб яе купляць, і што самагонка каштуе два разы таней за сьпіртныя напіткі ў магазынах.

Савецкія ворганы ўлады выяўляюцца бясьсільнымі перад гэтым зьявішчам. У прыгаданым артыкуле мы чытаем: У верасьні 1959 году Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету БССР выдаў загад «Аб узмацненьні змаганьня з п'янствам і гнаньнем самагонкі». Але ў шэрагу раёнаў ён вёконваецца дрэнна і асабліва там, дзе партыйныя і савецкія ворганы, поўнасьцяй спадзяючыся на работнікаў міліцыі, пракуратуры і суду, ня прыцягнулі шырокую грамадзкасьць да ліквідацыі п'нства і гнаньня самагонкі».

Да змаганьня з усімі гэтымі злачынствамі і злачынствамі ў двукосьці партыя заклікае грамадзкасьць, дамагаючыся ствараць і актывізаваць дзейнасьць гэтак званых народных дружынаў і таварыскіх судоў. Але адносна гэтага ў прыгаданым артыкуле гаворыцца:

«На пленуме ЦК (Беларусі) быў сур'ёзна крытыкаваны Гомельскі гарком партыі, які фактычна ўхіліўся ад працы ў справе стварэньня і ўмацаваньня народных дружынаў і арганізацыі таварыскіх судоў. Гарком мірыцца з тым, што асобныя пярвічныя партарганізацыі ня кіруюць дзейнасьцяй народных дружынаў, ня выхоўваюць дружыньнікаў, у выніку чаго ў некаторыя дружыны трапілі нягодныя людзі, якія кампраміуюць самадзейныя арганізацыі працоўных.»

У іншым месцы: «Трэба таксама прызнаць нездавальняючай працу ў справе стварэньня таварыскіх судоў у шэрагу раёнаў рэспублікі. На Віцебшчыне гэтыя суды створаныя ў менш, чымся 50 працэнтах калгасаў і саўгасаў, а тыя, што зарганізаваныя, ня выяўляюць дастатковай актыўнасьці. На паседжаньнях таварыскіх судоў, як правіла, ня выступаюць грамадзкія абвінавачвальнікі і абаронцы. Ці можна мірыцца з гэтым? Зразумела, не!»

Ня лепш выглядае справа і з палітычным даверам да насельніцтва. Пры канцы артыкулу гаворыцца:

«Цяпер, калі разьведка імпэрыялістычных дзяржаваў, і перш за ўсё ЗША, узмацняюць сваю шпіёнскую дзейнасьць супраць лягеру сацыялістычных краінаў, і ў першую чаргу супраць СССР, выключна важнае значэньне мае змаганьне з палітычнай бясьпечнасьцяй, з разьзявакамі і балбатунамі ў нашым асяродзьдзі. Партыйныя арганізацыі павінны няспынна павышаць палітычную пільнасьць савецкіх людзей, выхоўваючы іх у духу савецкага патрыятызму і сацыялістычнага інтэрнацыяналізму, непарушнай вернасьці справе камунізму.»

**Ю. Д.**

---

Купал пры поўным асьвятленьні аказаўся нізкім і брудным. Было незразумелым, як туды зьмяшчаецца столькі неба. Народ тоўпіўся ля выхаду. Там якісьці старычок, што ня верыў, пад агульны сьмех, даводзіў, што Бог ўсё-ж-такі ёсьць. А малыш гадоў шасьці прыставаў да бацькі:

— Папа, Зямля — круглая?

— Круглая.

— Зусім круглая?

— Так, як глёбус.

— А яна круціцца?

— Круціцца, Міша, круціцца, табе-ж цяпер якраз паказвалі.

— А Сонца большае за Зямлю?

— У шмат разоў большае.

— Значыць, усё — няпраўда! — сказаў хлопчык і горка заплакаў.

*

Над галавой там і сям порхалі ножніцы. Пералётваючы ад вуха да вуха, яны шчабяталі. Сяргей сядзеў у крэсьле, стараючыся не варушыцца, каб таму, за плячыма, было выгадней стрыгчы.

Яно неяк нязручна, калі дарослы мужчына капаецца ў тваіх валасох. Ён мог-бы карысную справу рабіць, а тымчасам траціць свае здольнасьці ў цырульні. А ты сядзіш перад ім як буржуй і баісься дыхнуць.

Нікляваная машынка шчыпала за шыю. Балела. У куточак між вокам і носам выкацілася сьлязіна. А выцерці яе нельга: яшчэ што падумае.

Вялікія рэвалюцыянэры таксама прывучаліся загадзя. Рахмэтаў спаў на цьвякох...

— Галаву ніжэй, — закамандаваў фрыз'ер.

Саргей сагнуўся, як толькі мог. Яму хацелася, каб яшчэ больш балела. Зьдзірайце скуру — ён не паддасца. Трэба ўзгадоўваць волю: а раптам яго дзе-небудзь будуць мучыць.

У руках ката бліснула брытва. Наваліўшыся грудзьмі на Сяргея, ён падчышчаў віскі. Пасьля ўстрахнуўся й зырваў сэрвэтку.

— Загадаеце адсьвяжыць?

— Ня трэба, дзякую, — папрасіў Сяргей, чырванеючы.

— Толькі шэсьцьдзесят капеек, — настойваў мужчына, усім сваім гордым выглядам выражаючы пагарду да Сяргеевай беднасьці.

— Я не дзеля гэтага. Я проста ня люблю, калі пахне адэкалонам.

І каб адкупіцца, ён сунуў яму пяцёрку — бацька заўсёды даваў на напітак швэйцарам і шофэрам...

Халадзеючы сьвежай патыліцай, Сяргей рушыў да выхаду — праз строй майстроў, апранутых у белае. Кажны зь іх сьціскаў у руцэ нікляваны інструмант, мэтадычна й суха мучаючы свайго кліента.

Чык-чык-чык,

Чык-чык-чык...

А ў люстрах падбародкі, шчокі, лысыя й кучаравыя галовы. Сьхіленыя, задраныя, перакрыўленыя, з мыльнай пенай ля роту.

Чык-чык-чык,

Чык-чык-чык...

Усё было спакойна, гігіенічна, ніхто ня крычаў і ня плакаў.

... У пярэднім пакоі нябрытыя людзі напружана чакалі свае чаргі... Загледзеўшыся на іх, Сяргей адкрыў ня тыя дзьверы і абамлеў.

Тут была дамская заля. Тут хварбавалі й закручвалі. Над запахам няжывога душыстага мяса плаваў чад паленых валасоў.

Наперадзе, зьвязаная прасьцінёй, спачывала жанчына. Ейны твар быў густа абмазаны бледна-фіялетавай кашай. Ён расплываўся, калі масажыстка апускала на яго свае выпешчаныя рукі. А пасьля твар заварушыўся і разьляпіў павекі:

— Як ты трапіў сюды, Сяргейка? Ня бойся. Ты не пазнаў мяне? Гэта-ж я — Марына.

*

Позна вечарам Глобаў прыехаў у суд. Вахтавы адчыніў бяз хістаньня: ён паважаў пракурора й быў яму адданы.

— Ідзі, старына, спаць, — сказаў Уладзімер Пятровіч і пачаставаў папяросай. А сам прайшоў па калідоры, усюды ўключаючы сьвятло.

Заля была пустая й стол быў пусты, і пустыя былі крэслы судзьдзяў, зь дзяржаўнымі гэрбамі на сьпінках. Але ўсё гэтае дзелавое, знаёмае да дробязяў абсталяваньне здавалася яшчэ больш урачыстым, чымся ў дзённы час.

Пракурор любіў прыяжджаць сюды ў непрацоўны час й падрыхтоўваць абвінавальныя прамовы адразу-ж на месцы. Як быццамбы ня проба, а самая запраўдная працэдура ішла звычайным парадкам — пры поўным складзе суду, у срогай начной цішыні.

... Надарэмна падсудны стараўся ўсё запутаць, адмаўляў сваю віну й прасіў даваньня.

— Не, грамадзянін Рабіновіч, ня вам пакліікацца на міласэрдзе! Прыпомніце лепш матак, якіх вы калечылі. Падумайце аб нешчасьлівых бацькох — яны так і не дачакаліся дзіцяці! Аб дзецях, нашых дзецях, зьнішчаных вамі.

І маўчаў абвінавачаны праступнік, і маўчаў судзьдзя, і маўчаў вёрткі адвакат, падобны да Карлінскага. Усе згаджаліся з тым, што казаў пракурор.

Ён абвінавачваў Рабіновіча, але памятаў аб усіх ворагах, якія нас абкружаюць. І таму словы ягоныя трапляялі проста ў мэту. Ад незаконнага аборту — адзін крок да забойства, а адсюль — недалёка й да больш паважных дывэрсіяў.

І ворагі занепакоіліся. У цішыні глыбокай ночы яны строілі падкопы. Яны шукалі месца, дзе-б найбольш балюча ўкусіць. І вось устае адвакат падобны на Карлінскага, і публічна абвяшчае: жонка самога пракурора зрабіла нядаўна аборт.

Марыну выводзяць пад рукі на агульныя аглядзіны. Ейнае абліччa — у ганьбе — чароўнае, як заўсёды. Яна глядзіць праз цябе, так што хочацца адвярнуцца, глядзіць — быццам за тваімі плячыма вялікае люстра, і яна не з табой размаўляе, а прыглядаецца на сябе.

А вочы абяцаюць, спакушаюць. Але паспрабуй — прыблізься — апусьцяцца пушыстыя вейкі, і зь нейкай моцнай пагардай, заўсёды аднэй і той самай, раней падрыхтаванай грымасай яна скрывіць свой рот: — Ах, пакінь!

— Што-ж, судзеце яе, грамадзяне судзьзі! Судзеце, калі гэта патрэбна. Але памятайце, памятайце аб ворогах, якія нас абкружаюць!

І замоўкла заля, і маўчыць судзьдзя, і такая магільная цішыня навокал, быццам няма тут ні адзінае душы.

І зноў устае адвакат, нацкаваны ворагамі, заяўляючы, што ў пракуроравага сына шкодны вобраз думак. А Сяргей сам падыходзіць да стала і поўным голасам пацьвярджае: — «Для чароўнае мэты, — кажа, — патрэбны чароўныя сяродкі».

— Дурное хлапчанё! — крычыць яму Уладзімер Пятровіч. — Я-ж выясьняў табе, куды гэтая дабрата прыводзіць. З тваімі чароўнымі сяродкамі можна толькі зьгінуць, а мы павінны перамагчы, перамагчы, што-б было. Судзеце яго, грамадзяне судзьдзі, калі лічыце неабходным! Судзеце й мяне разам зь ім за праяўленую мягкацеласьць! Хай лепш пацерпяць дзесяткі й навет сотні нявінных, чымся ўратуецца адзін вораг...

Калі пракурор Глобаў уявіў сабе гэтую сцэну й на судзе собскага сумленьня ўзважыў усе аргумэнты, абвінавачвальная прамова была ўжо гатовая. Не напісаная на паперы і навет ня выказаная ўслух, яна гучэла ў вушох вынесеным прысудам і прасілася навонкі — у слова. Тады Ўладзімер Пятровіч выпрастаўся і, уважліва гледзячы на круглагаловы гэрб, што ўпрыгожваў судзьдзёвую сьпінку, голасна, так, каб было чутно ўва ўсіх канцах залі, адчыканіў:

— Мы не дазволім ніякім рабіновічам падрываць нашае грамадзтва ў самой ягонай аснове! Мы не дамо ворагам зьнішчыць нас, мы самі іх зьнішчым!

Пасьля ён абыйшоў пусты будынак паволі, па ўсіх карыдорах. Кажны закутак аглядаў — ці няма каго-небудзь? Узабраўся на другі паверх і дакладна, пагаспадарску, спраўдзіў усе дзьверы, усе запоры. У гэтым доме ён — гаспадар, таму што абвінавачвае тут — ён.

І чуе Ўладзімер Пятровіч, як унізе, у пакінутай залі, працягваецца цырымонія, пушчаная ім у ход.

— Суд ідзе!

— Суд ідзе!

— разносіцца ўсюды: паводля ягоных абвінавачаньняў вядуць справы, выносяць пастановы, кагосьці прывозяць і кагосьці адвозяць.

А хто выявіў Рабіновіча, адрыў гэты ланцуг працэсаў? — Пракурор Глобаў. Хто ў цяжкую хвіліну замяніў і судзьдзю й прысяжных? — Зноў-жа — ён і ніхто іншы. Першы, калі іншыя маўчалі, ён устаў і абвінаваціў. Усе думалі: Рабіновіч — дробязь, анэкдот, жалюгодны сьмешны чалавечак, а ён абвінавачваў, ня слухаючы ні сьветак, ні адвакатаў. Яшчэ нічога, нічога ня было. А ён ужо абвінавачваў. З гэтага ўсё й пачалося.

(Далей будзе)

# Тыдзень паняволеных народаў у Чыкаго

Кульмінацыйным пунктам Тыдня Паняволеных Народаў была маніфэстацыя нацыянальных групаў Чыкаго 23 ліпеня ў Вялікім Парку над возерам Мічыган, дзе ў часе лета адбываюцца выступы сымфанічнай аркестры ды выдатных сьпевакоў. Гэты Тыдзень быў зарганізаваны пад патранатам маёра гораду сп. Дэйлі.

У гэтым годзе, дзякуючы ініцыятыве дзейных Беларусаў, была зарганізавана група Беларусаў двух арганізацыяў, якія існуюць на тэрэне Чыкаго. Узялі ўдзел таксама й сябры нядаўна паўсталай Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі.

Трэба прызнаць, што беларуская група рэпрэзэнтавалася вельмі добра. Дзяўчаты мелі ўбраньне з прыгожымі беларускімі ўзорамі; хлопцы ў вышытых кашулях з характэрнымі беларускімі паясамі, што зьвярнула ўвагу іншых нацыянальных групаў і Амэрыканцаў.

А гадзіне 2 папаўдні ўсе групы ўсталіліся ў альфабэтным парадку, і нашая група была трэйцяй пасьля Альбаніі й Баўгарыі. Зь бел-чырвона-белым сьцягам і транспарэнтам «Беларусь», нашая калёна годна рэпрэзэнтавала наш народ між іншымі паняволенымі й перад свабоднымі народамі. Прыняўшы першы раз удзел у палітычнай маніфэстацыі, нашая група, ня гледзячы на розьніцу й разыходжаньні арганізацыяў, выступіла тут зьяднаным фронтам. Гэта сьведчыць пра тое, што ў змаганьні за вызваленьне нашага краю ўсе мы стаім супольным маналітам.

Пасьля таго, як прадстаўнікі паняволеных народаў із сьцягамі й транспарэнтамі занялі месца каля трыбуны, кангрэсман-дэмакрат з штату Ільлінойс Пуцінскі адчыніў урачыстасьць, пералічваючы ў алфабэтным парадку прысутнасьць усіх нацыянальных групаў і паклікаючы іх прадстаўнікоў выступіць перад публікай із сваімі сьцягамі й транспарэнтамі.

Пасьля прачытаньня малітвы, першым прамоўцам быў пакліканы прафэсар Вардыс, з паходжаньня Летувіс, які гаварыў пра цяжкае становішча паняволеных Масквой народаў. Ён выразіў надзею, што прыйдзе час, калі гэтыя народы зноў стануцца вольнымі й здабудуць незалежнасьць у сваіх этнаграфічных межах.

Наступна забраў слова былы кангрэсмана ад рэспубліканцаў **Ч. Керстэн,** ведамы нам як старшыня Камісіі па сьледству народазабойства, папоўненага Савецкім Саюзам над паняволенымі народамі. Прамоўца падкрэсьліў, што ў Савецкім Саюзе ня існуе дэмакратычнай свабоды ў паняцьці заходніх дзяржаваў. Жалезная, бязьлітасная дыктатура прыгнеціла мільёны нерасейскіх народаў, зьнішчыла нацыянальныя апрычонасьці гэтых народаў. Яна патаптала рэлігійныя перакананьні, разбурыла сьвятыні. Ён зазначыў, што падобны стан ня можа існаваць, бо гэта пярэчыць людзкім прынцыпам.

Рэспубліканскі сэнатар ад штату Нэбраска падкрэсьліў у сваей прамове неабходнасьць інтэнсыўнага выясьненьня камуністычнай небясьпекі для заходняй цывілізацыі. Ён таксама заклікаў узмоцніць ды пашырыць радыёперадачы «Голасу Амэрыкі» для паняволеных народаў, кладучы асаблівы націск на ўвядзеньне перадачаў на мовах тых народаў, якія яшчэ не знаходзяцца ў сьпіску «Голасу Амэрыкі»

**Галоўным прамоўцам на** ўрачыстасьці Тыдня Паняволеных Народаў быў айцец Браўн, былы капэлян амэрыканскай калёніі ў Маскве на працягу 17-ці гадоў. Прамоўца быў сьведкам «вялікіх» савецкіх дасягненьняў, як пабудовы Беламорскага каналу, што быў засланы касьцямі сотнямі тысяч савецкіх палітычных вязьняў, а таксама бязьлітасных арыштаў і вывазаў нязьлічоных тысячаў нявінных людзей, трапіўшых у рукі НКВД за найменшыя падозрэньні. Сучасную савецкую палітыку мірнага суіснаваньня ён назваў чыстай маной і хвальшам. У канцы прамоўца адзначыў важнасьць усьведамленьня амэрыканскім грамадзтвам тае небясьпекі, якая скрытая пад савецкім камунізмам, важнасьць яе раскрыцьця асабліва праз прэсу й публікацыі.

Пад час урачыстасьці сьпяваў хор, зложаны з прадстаўнікоў паняволеных народаў, у якім сьпявалі таксама Беларусы. Хор выканаў Гімн Паняволеным Народам, словы айца Трэпыш (Латыш) і музыка вугорскага кампазытара др. Фр. Наджы.

Апрача хору выступіла духавая аркестра ўкраінскай моладзі.

У канцы праграмы ўрачыстасьці кангрэсман Пуцінскі зачытаў тэлеграму віцэ-прэзыдэнта Ніксана, у якой кандыдат на будучага прэзыдэнта Злучаных Штатаў Амэрыкі акрэсьліў важнасьць Тыдня Паняволеных Народаў ды важнасьць гэтага ўхваленьня Амэрыканскім Кангрэсам і прэзыдэнтам Айзэнгаўэрам. У тэлеграме зазначалася далей, што ён (Ніксан) салідарызуецца зь ідэяй **Тыдня** Паняволеных Народаў і ў будучыні ў меру магчымасьцяў будзе падтрымоўваць і ўспамагаць высілкі паняволеных у змаганьні за адваяваньне сваей нацыянальнай незалежнасьці.

У канцы ўрачыстасьці была прынята рэзалюцыя, у якой падкрэсьлівалася значэньне й важнасьць Тыдня Паняволеных Народаў, патрэба абыходжаньня яго кожны год, а таксама заклікаліся прадстаўнікі паняволеных народаў прыймаць самы актыўны ўдзел у гэтай палітычнай маніфэстацыі.

**Прысутны**

**Беларуская група ў часе паходу калёны прадстаўнікоў паняволеных народаў**

# Зь беларускага жыцьця

## Урачыстасьць БАПЦ у Англіі

Гасподзь Бог наш Ісус Хрыстос і Прасьвятая Ўладычыца наша Багародзіца й Прыснадзева Марыя ўдастоілі беларускіх праваслаўных вернікаў у Англіі годна адсьвяткаваць дзесяцігодзьдзе існаваньня БАПЦарквы.

Урачыстасьць, якая адбылася 21 жніўня 1960 году, належыць да асаблівых здарэньняў, а таму павінна быць ня толькі ў летапісу Вікарыяльнае Ўправы ўпісана, але ўнесена на балонкі гісторыі БАПЦарквы.

Дзень гэты быў радасным і ўрачыстым для праваслаўных Беларусаў у Англіі. Яшчэ перад 11 гадзінаю раніцы ў Беларускім Доме ў Брадфорд пачалі зьбірацца вернікі, ды неўзабаве прыбыў спэцыяльна наняты вялікі аўтобус з Манчэстэр, перапоўнены вернікамі, а паміж імі пратаярэй Захары Паляkoў — настаяцель Казацкае Парахвіі ў Манчэстэр разам з сваім магутным хорам, папоўненым харыстымі з Манчэстэр.

Зь Беларускага Дому сьвятары й вернікі накіраваліся ў вялікую ангельскую царкву, дзе ўжо чакалі вернікі ня толькі з Брадфорд, але і з далёкіх ваколіцаў, а сярод іх і шматлікія Ангельцы.

Саборную Багаслужбу адпраўлялі прат. Захары, прат. Аляксандар, а. Міхайла й дыякан Канстантын з УАПЦ. Прыгожы сьпеў хору ня толькі садзейнічаў узносіць шчырыя малітвы да Бога за ўвесь Беларускі народ, але вытварыў сярод вернікаў запраўды глыбокі малітоўны настрой.

Пасьля Літургіі быў адпраўлены Малебен з Вадасьвяцієм ды гучным мнагалецьцем за памысны развой БАПЦ, здароўе, дабрабыт і доўгае жыцьцё Высокапрэасьвяшчэньнейшых Архіяпіскапаў Сяргея й Васіля й настаяцеля парахвіі а. Аляксандра ды ўсяго Беларускага Народу. У пропаведзях, як а. Аляксандар, гэтак і прат. Захары асаблівы націск пакладалі на значаньне нацыянальных незалежных Цэркваў як ў сучаснасьці на эміграцыі, гэтак і ў прышласьці на Бацькаўшчыне, аб непахіснасьці й падтрымцы БАПЦарквы й праваслаўнае веры, як веры нашых бацькоў, дзядоў і прадзедаў, якія пераказалі нам свой запавет абараняць яе ад усіх шкодных уплываў.

З царквы ўсе накіраваліся ізноў у Беларускі Дом, дзе ўжо на сталох быў прыгатаваны традыцыйны брацкі абед.

На гэтай люднай і запраўды ўрачыстай бяседзе пасьля малітвы а. Аляксандар прачытаў прывітаньне ад Яго Высокапрэасьвяшчэнства Япіскапа Васіля, прывітаньне ад Япіскапа Ангельскае Царквы ў Брадфорд, ад д-р прат. а. Аўгена з Бэльгіі, а слоўна прывітаньне зложылі прат. а. Захары ад Казацкага Дэканату, сп. Каралькоў ад імя Вольнага Казацтва і сп. Міхалюк ад імя Рады БНР.

Дзякуючы за прывітаньні, а. Аляксандар зазначыў, што сяньняшні юбілей дзесяцігадвоае працы на ніве рэлігійнай належыць ня толькі да яго, але й да ўсіх тых, што спрычыніліся і дапамаглі запачаткаваць здаровы падмурак БАПЦ у Англіі, незалежна ў які спосаб аказвалася гэтая падмога: працаю, ахвярнасьцяй, маральнаю падтрымкаю, або магчымымі іншымі спосабамі. Характарызаваўшы здабыткі ў галіне рэлігійнай, а. Аляксандар закрануў справу Апостальскага прыемства БАПЦ, якая кананічна яго атрымала і ёсьць праўнаю, як і ўсе іншыя Праваслаўныя Цэрквы на эміграцыі. Гэтак сама была прааналізаваная рэпрэзантацыйная і ўсьведамляючая праца БАПЦ сярод Заходняга сьвету, роля БАПЦ у сучаснасьці і ў будучыні, на абарону праваслаўнае веры, ды непахіснасьці і адпорлівасьць усім тым чыньнікам, якія сілянцца аслабіць і ўнесьці разлад у беларускае рэлігійна-нацыянальнае жыцьцё. Выясьнены быў цяжкі матар'яльны стан Уладыкі Сяргея й неабходнасьць дапамогі, а гэтак сама падаў да ведама сумную вестку аб сьмерці мітр. прат. Хвёдара Данілюка, просячы прысутных ушанаваць Ягоную памяць хвілінаю цішы, а Паніхіда будзе адпраўлена ў 40 дзень па сьмерці.

Апрача прыгожых беларускіх песень прысхаўшага магутнага хору, зь вялікім энтузыязмам спаткалі прысутныя дзяцей дашкольнага й школьнага веку, якія з прыгожымі букетамі кветак у руках і зь вяночкамі на галаве прапяялі некалькі беларускіх песень і прадэклямавалі вершы, за што атрымалі ў падзяку буру воплескаў. Прысутныя вучні Беларускае суботняе школкі ў Манчэстэр, гэтак сама пацешылі гасьцей сваімі прыгожымі песьнямі й дэклямацыямі.

Пасьля вясёлае застольнае бяседы, пад музыку радыёграма распачаліся танцы, які мажліва працягнуліся -б аж да раніцы, каб кажны не адчуваў, што заўтрашні дзень ёсьць не сьвяточны й кажнага кліча абавязак працы для існаваньня.

Радасна развітваючыся, усе жадалі Божае помачы для далейшага памыснага развою БАПЦ, вытрываласьці й посьпеху для Гіерархаў і сьвятароў, бо запраўды сардэчная малітва, цёплая бяседа пакінулі добры й мілы ўспамін.

**Удзельнік**

## Студэнты...

**(Заканчэньне з 3-яе бачыны)**

дадні — яны ўжо думалі, што такую нагоду знайшлі. Справа ў тым, што ўзяць удзел у дыскусіі за круглым сталом Швайцарскі Саюз Студэнтаў запрасіў і некаторыя эміграцкія арганізацыі, а менавіта Вугорскае Аб'еднаньне Студэнтаў на Выгнаньні і Саюз Моладзі Народаў СССР на Эміграцыі. У дэлегацыі СМНСЭ быў і беларускі студэнт. Афіцыйныя сьпісы ўдзельнікаў былі пакладзеныя ўва ўсе папкі ўдзельнікаў. Паўдзённа-амэрыканскія камуністыя абвесьцілі, што яны ня возьмуць навет удзелу ў урачыстым адкрыцьці канфэрэнцыі, калі гэтыя сьпісы — дзе былі й назовы эміграцкіх арганізацыяў — ня будуць зьнішчаныя. Каб не зрабіць прыемнасьці камуністым — ня даць ім магчымасьці зрабіць закалот яшчэ перад пачаткам дыскусіі — Швайцарскі Саюз Студэнтаў пайшоў на ўступкі: прыгаданьня сьпісы былі вынятыя з папак а 4-ай гадзіне раніцы... Камуністыя-ж напэўна не спадзяваліся, што гэтым яны зрабілі немалую паслугу эмігрантам-удзельнікам дыскусіі: усе іншыя дэлегацыі ўважалі за свой абавязак выказаць свае сымпатыі да студэнтаў-эмігрантаў. Тое самае зрабіла і швайцарская прэса, крытыкуючы навет швайцаркіх студэнтаў за іхную «мяккасьць».

А пасланцы з Прагі апынуліся ў сьмешным палажэньні і, як кажуць, адыйшлі ў цень...

Шляхотная спроба студэнцтва некамуністычных краінаў абмеркаваць за адным сталом з камуністымі існуючыя разыходжаньні і магчымасьці супрацоўніцтва, ня была зусім дарэмнай. Яна паказала яшчэ раз, што так доўга, як за студэнтаў паняволеных камунізмам краінаў будуць выступаць накінутыя ім партыйныя апаратчыкі, ня можа быць і мовы аб запраўдным сапрацоўніцтве і прыязьні. Як сказаў ў гутарцы адзін з удзельнікаў дыскусіі: «Свабоды нельга пажаніць зь няволяй».

**Ул. Немановіч**

# А Д О З В А
# Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

Дарагі Суродзіч!

Задзіночаныя Штаты Амэрыкі, магутная й вядучая дзяржава ў сьвеце, краіна свабоды й дабрабыту, сталася нашай новай бацькаўшчынай, якая дапамагае сяньня шматлікім народам здабыць незалежнасьць. Мы перакананыя, што толькі Амэрыка ёсьць і будзе здольная ставіць супраціў расейска-камуністычнай агрэсіі, што толькі Амэрыка дапаможа Беларускаму народу вызваліцца з камуністычнае няволі й адбудаваць вольную й незалежную Беларускую дзяржаву.

Дзеля гэтага, беларуская палітычна-грамадзкая дзейнасьць у Амэрыцы павінна быць пашыраная й паглыбленая, каб веды пра Беларускі народ і ягоныя ймкненьні здабылі ў Амэрыканскім грамадзтве прыхільнасьць і зразуменьне для нашае справы.

У гэтым кірунку ў нас, дзякуючы Вам, дарагі суродзіч, ды нашым беларускім арганізацыямы, між якімі галоўная роля належыць Беларуска-Амэрыканскаму Задзіночаньню ў ЗША, ужо шмат што зробленае й слова БЕЛАРУС ня ёсьць сяньня чужое шырокім масам Амэрыканскага грамадзтва.

Галоўная Управа БАЗА выдала сёлета, або дапамагла выдаць, тры брашуры ў ангельскай мове: «За свабоду й незалежнасьць Беларусі», Злачынствы Хрушчова, частка 6-ая», і апошнюю, што тутка залучаем і зь якое Вы бачыце, як паважныя амэрыканскія палітыкі цікавяцца нашым жыцьцём у ЗША й змаганьнем Беларускага народу за дзяржаўную незалежнасьць.

Але ўсяго гэтага яшчэ замала. Мы павінны ўлучыцца ў Амэрыканскае палітычнае, грамадзкае, рэлігійнае й навуковае жыцьцё, каб давесьці, што Беларусы — народ здольны пашаны, які цалкам заслугоўвае на незалежнае дзяржаўнае існаваньне.

Тутка якраз і патрэбная Вашая маральная й матар'яльная дапамога. Вы, дарагі суродзіч, павінны таксама прылажыцца да вялікае справы й стацца актыўным удзельнікам сучасных падзеяў, якія вырашаюць будучы лёс Беларусі.

Галоўная Управа БАЗА запэўняе Вас, што кажны атрыманы ад Вас даляр будзе скарыстаны якнайлепш для дабра Беларуі й Амэрыкі, а ў першую чаргу — спрычыніца да стварэньня сталага выдавецкага фонду, што запэўніў-бы рэгулярнае выдаваньне беларускае газэты, так патрэбнае нам сягоньня на амэрыканскім кантынэньце.

За шчырае падтрыманьне загадзя Вам дзякуем.

Жыве Беларусь!

5 жніўня 1960 г.

**К. Мярляк**

старшыня Галоўнае Управы БАЗА

**Congressional Record**

United States of America

PROCEEDINGS AND DEBATES OF THE 86th CONGRESS, SECOND SESSION

## Forty-second Anniversary of the Declaration of Independence of Byelorussia

**Anniversary of Byelorussian Independence**

REMARKS

OF

Byelorussia. Although in the homeland the Byelorussian people are forbidden by their Soviet masters to celebrate national holidays of native patriotic significance, the American citizens of Byelorussian descent join with Byelorussians

ciple to be recognized in the international community of nations.

When acceptance of this principle is fully acknowledged by the nations of the world, then the Republic of Byelorussia will again become sovereign and free,

**Нумар «Congressional Record», у якім зьмешчаны вытрымкі з галаўнейшых прамоваў сэнатараў і кангрэсмэнаў ЗША з нагоды 42-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці БНР.**

## Пікнік аддзелу С. Рывэр - Н. Брансвік

У ліпені сёлета Аддзел Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня Саўт Рывэр — Нью Брансвік ладзіў свой традыцыйны 4-ы гадавы пікнік у Гэлмэце, Нью Джэрзі. Пікнік сёлета, як і папярэднія гады, прайшоў вельмі ўдала й даў нядрэнны прыбытак. А гэта таму, што спрыяла адпаведнае надвор'е. Хоць, праўда, пад сам вечар яно пачало горшыцца, а з гэтае прычыны госьці разьехаліся раней, чымся прадбачвалася.

Падчас пікніку была разыграная лятарэя, ладжаная Жаноцкай Сэкцыяй пры Аддзеле БАЗА. У розыйгрышы лятарэі былі даволі добрыя рэчы. Пры ўваходзе, як і ў мінулыя гады, прадаваліся беларускія кніжкі, якія распаўсюджвае прадстаўнік газэты «Бацькаўшчыны» — сп. Б. Даніловіч. Беларускія кніжкі з даручэньня сп. Даніловіча прадаваў сябра Ўправы БАЗА сп. А. Койка.

Трэба зазначыць, што акрамя Ўправы Аддзелу БАЗА заслугоўвае на найбольшую падзяку Ўправа Жаноцкай Сэкцыі, а менавіта: спадарыні С. Дубяга й М. Ханяўка, якія, не шкадуючы сваіх высілкаў, падрыхтавалі вельмі смачныя стравы зь беларускімі прысмакамі для сваіх суродзічаў. За гэта ўсё ўспомненым спадарыням належыцца шчырае беларускае дзякуй.

Нельга прамінуць сп. А. Субата, які, не шкадуючы таксама часу, пастараўся разьвесяліць гасьцей музыкай — з кружэлак. Ад самага амаль пачатку й да канца бесьперапынна карыстаючыся кружэлкамі, граліся беларускія песьні, а таксама й танцы. З гутарак прысутных можна было адчуць, што сёлетні пікнік вельмі спадабаўся. Спадабаўся таму, бо граліся беларускія песьні, што да гэтага часу не практыкавалася. У задаваленьні й добрым настроі, госьці разьехаліся дадому.

**С. Г.**

**НІВОДНАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ, ТАВАРЫСКАЯ Й СЯМЕЙНАЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦЬ НЕ ПАВІННА АДБЫЦЦА БЯЗ ЗБОРУ СЯРОД ПРЫСУТНЫХ АХВЯРАЎ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»!**

## НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
- **Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.

**АЎСТРАЛІЯ:**
- **Mr. A. Vasilenia,** 39 Edwin St Croydon, N. S. W.
- **Mr. A. Maroz,** 109 Morrison Rd. Midland Junction, W. A.
- **Mr. M. Nikan,** 14 Steel St Spotswood—Melbourne, Vic.
- **Mr. W. Akavity,** 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.

**БРАЗЫЛІЯ:**
- **Mr. C. Cimafiejčyk,** Prasa [illegible] Tiridentes, Curitiba - Parana

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
- **Mrs. L. Bielenis,** 2042 W St. Paul Ave., Chicago 47, Ill
- **Mr. B. Danilovich,** 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
- **Mr. Ul. Duniec,** 814 Brayton Av. Cleveland 13, Ohio.

**КАНАДА:**
- **Mr. K. Akula,** 57 Riverdale Av. Toronto, Ont.

**ФРАНЦЫЯ:**
- **Union des Travailleurs Biélorussiens en France, 26, rue de Montholon Paris 9.**
- **Mr. W. Kasztelan,** 33 rue Kleber Mouvaux (Nord).

БАЦЬКАЎШЧЫНА

Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры і грамадзкага жыцьця.
Выдавец: Уладзімер Бортнік
РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ